# КРЫВІНКА

ЛЮТЫ
№ 3 (139)
2014 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА



МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

## ЗВАРОТ ДА ЧЫТАЧОЎ КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ ГЕОРГІЯ СТАНКЕВІЧА

**Паважаныя сябры! Чамусьці сёння ў нашым раёне, як і ў вобласці ці рэспубліцы пайшла мода “выбіраць” народнымі дэпутатамі чыноўнікаў. Існуе думка: “Вось яго паставяць дэпутатам, і ён нам нешта дасць, бо сядзіць блізка каля грошай.”**

Нядаўна на цэлай старонцы “Зара” расказвала, як наш дэпутат Мацюшка, правая рука самага Косінца, амаль што ночы не дасыпаў, а за чатыры гады перааснасціў нашу бальніцу, замяніў вокны ў гімназіі, адрамантаваў кавалак дарогі і г.д. На справе ж усё тое зроблена было не за Мацюшкавы, а за народныя, за бюджэтныя грошы, і зусім не Мацюшкавымі рукамі.

Наадварот, сёння гіганцкія сумы з нашага бюджэту ідуць не на вырашэнне нашых праблемаў, а на ўтрыманне мноства падобных чыноўнікаў-Мацюшкаў. Яны ездзяць на дарагіх аўтамабілях, атрымоўваюць вялізныя аклады, а лезуць у дэпутаты таму, каб аніхто з простых людзей не мог пракантраляваць іхнюю дзейнасць, каб займець дэпутацкую недатыкальнасць, калі раптам фартуна павернецца задам.

Тое, што мы рэгулярна бачым па тэлевізару, калі Лукашэнка дае каманду завесці на нейкага чыноўніка крымінальную справу, толькі вяршыня айсбергу.

А праблем у нашым раёне хапае вышэй даху. Іх ніхто нідзе не абмяркоўвае і не імкнецца вырашаць. На дэпутацкіх паседжаннях у нас пануе адзінадумства. Думаю, што галасуюць там заўжды аднагалосна. Пэўна, забыліся, што толькі ў спрэчках нараджаецца ісціна.

Вось некалькі фактаў нашага жыцця.

***Сельская гаспадарка.*** Нядаўна ў “Крывінцы” закраналіся праблемы прадпрыемства “Нізгалава”. Там не ацяпляецца майстэрня, пабітая тэхніка, гнаяцца кармы. Ураджайнасць за мінулы год найніжэйшая ў раёне. Колькі ў раёне такіх “калгасаў”?

***Культура.*** У раёне знішчаюцца помнікі культуры, занесеныя ў Спіс гістарычна-культурных каштоўнасцяў. Смех сказаць: на адным з помнікаў, панскай кухні ў Двор Нізгалаве, канёк ставіцца другі год.

***Адукацыя.*** У раёне закрываюцца школы. Летась зачынілі Пяцігарскую і Паўазерскую. Сёлета зачыняць яшчэ Плiскую і Сініцкую, на чарзе Свячанская і Рубежская. Заўважце: усе названыя школы – беларускамоўныя.

***Ахова здароўя.*** Звонку тут усё цудоўна: Мацюшка мадэрнізаваў бальніцу, закупіў новае абсталяванне. А раён у цэлым вы-мі-ра-е. Нас ужо менш за 16 000. А ў 2005-м годзе у раёне было звыш 20 000 чалавек! Смерць забірае мноства маладых людзей, пераважна 40-50-гадовых мужыкоў.

***Прэса.*** Раённая “Зара” сёння – паслухмяны рупар чыноўнікаў, толькі для іхніх віншаванняў і юбілеяў. У газеце ўздымаецца мінімум сур’ёзных праблемаў.

***Камунальная гаспадарка.*** Засыпаць лужыну каля пад’езда або залапіць ямку на дарозе – сёння гэта геройскі ўчынак чыноўніка-дэпутата. Але і тое робяць адзінкі. Доказ праўдзівасці гэтых слоў: тэрміновага рамонту патрабуе большасць вуліц і мікрараёнаў райцэнтра.

***Ахова прыроды.*** Паўсюль сметнікі. Ступі крок на бераг ракі ці ў лес – патонеш у смецці. Хто не дае навесці парадак тут, у сябе пад носам?

***Гандаль.*** Просты люд па выходных гандлюе на вуліцы. Тавар раскладаецца на зямлі. У той жа час райпо насупраць вакзала пабудавала шыкоўны навес. Ужо паўгода ён стаіць пустым.

Здавалася б, праблемы – вось яны, вялізныя, страшныя. Вылучайце ініцыятыўных неабыякавых людзей у дэпутаты, вырашайце іх.

Але чыноўнікі і самі не працуюць, і новых людзей у свае кабінеты не дапускаюць, Божа барані! Бо тыя запатрабуюць вырашаць праблемы, а не праседжваць кабінетныя крэслы.

“Няхай сядзіць у сваёй школе ды яшчэ падзякуе, што адтуль не выганяюць! Не пушчаць яго ў дэпутаты!” – не сакрэт, што менавіта такая пазіцыя большасці чыноўнікаў у адносінах да мяне.

Але жыццё паказвае, хто ёсць кім. Шкада толькі страчанага часу і магчымасцяў.

**Партал твайго горада: http://beshankovichy.by**

## 21-ГА ЛЮТАГА – ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ

## ДЗВЕ ДЗЯРЖАЎНЫЯ МОВЫ

*Я знаю дзесяць моў, ды толькі за адну,*
*як баявік памру! У ёй наш дух жыве,*
*мяне і мой народ ад здрады ён ратуе,*
*без роздуму памру, як скажуць, за яе.*

*Бо мова – то не гук, а думка непакорных,*
*зярнятка, што дае нам неба у пасаг.*
*Таму й малолі нас расейцаў хіжых жорны,*
*каб не памёр у нас пакорны, чорны раб.*

*Я вам скажу, браты, пад бой чужых курантаў,*
*што з двюх дзяржаўных моў – дарога ў смерць адна;*
*Нас вынішчуць рабы, што ў нас, як акупанты,*
*жывуць і мову п’юць, як п’яніцы, да дна.*

*Пярэварацень рад пісаць універсалы...*
*З чужых плячэй насі кашулю, дабрадзей,*
*Ты хочаш, каб цябе за тое шанавалі,*
*што двухязыкі ты, як падкалодны змей?*

*Народ, Радзіма, Бог -- табе ўсё ні да чога!*
*Патопча ўсё й паб’е шавіністычны шал...*
*Таму я і прашу і Пушкіна, й Талстога:*
*Прыдзіце, каб адняць двухмоўнасці кінжал!*

***Дзмітро Паўлычка***
***Пераклад Эдуарда Акуліна***

НАША СПАДЧЫНА

## ПОМНІК ВОІНАМ-АЎГАНЦАМ У БЕШАНКОВІЧАХ

**Да 25-годдзя вываду савецкіх войск з Аўганістану ў Бешанковічах усталяваны помнік у гонар удзельнікаў гэтай вайны.**

Хаця за гады вайны (1979 – 1989г.г.) савецкія войскі згубілі там каля 14 000 сваіх салдат загінулымі і сотні тысяч калекамі, сёння тая вайна застаецца для існай улады, як узор служэння Радзіме. Партыя сказала “Трэба!”, армія адказала “Ёсць!”

А вось пра тое, што развязаная СССР грамадзянская вайна ў Аўганістане забрала мільёны жыццяў мясцовых аўганцаў і фактычна працягваецца дасёння – маўчок.

Выхоўваць жа патрыятызм на прыкладах беларусаў, што змагаліся за вызваленне сваёй радзімы ад расейцаў, скажам, таго ж Кастуся Каліноўскага, лукашэнкаўская ўлада баіцца.

Між тым, праз месяц, 22-га сакавіка споўніцца 150 год з дня смерці выдатнага сына беларускага народа. Ці паставяць яму помнік хаця б у Мінску? Пры гэтай уладзе – адназначна не.

**Г.Станкевіч**

ВЫРАШЫМ ПРАБЛЕМУ

## ВАЙНА З НАРОДАМ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**У сярэдзіне студзеня пачаўся знос дахаў з гаражоў, якія знаходзяцца па вуліцы Ясеніна ў зоне будаўніцтва моста праз Заходнюю Дзвіну(блізу гімназіі).**

Работнікі камунгаса пад кіраўніцтвам намесніка старшыні райвыканкама па будаўніцтву Анатоля Журко першым знялі дах з гаража пенсіянера Медзюшка Пятра Фёдаравіча. Напужаныя суседзі назаўтра пачалі здымаць дахі самі.

Але адначасова жыхары дома №2 звярнуліся ў раённую пракуратуру з запытаннем правамоцнасці такіх дзеянняў раённых чыноўнікаў. У вуснай гутарцы пракурор пацвердзіў, што знасіць гаражы камунгасаўцы права не мелі, бо праект моста яшчэ не прайшоў экспертызу.

Грамадзянамі, чые інтарэсы непасрэдна закранаюцца, ужо накіраваны лісты і Прэзідэнту, і ў рэдакцыі газет, і Дамашкевічу, і Косінцу, і дэпутату Палаты прадстаўнікоў Пятру Шыкшняну. Ад першых асоб рэспублікі і вобласці ідуць паперы за подпісам іхніх намеснікаў, дзе няма аніякой канкрэтыкі. А вось ад народнага дэпутата адказу так і не дачакаліся.

**Г.Станкевіч**

НАША ЖЫЦЦЁ

## ЛЕПШЫЯ ЛЮДЗІ РАЁНА – НАШЫ ЧЫНОЎНІКІ!

**Лепшых работнікаў у розных сферах дзейнасці на Віцебшчыне выбіраюць ужо ў шосты раз, пачынаючы з 2009 года. Званне "Чалавек года Віцебшчыны" заснавана па ініцыятыве старшыні аблвыканкама Аляксандра Косінца і прысуджаецца раз у год у 20 намінацыях.**

Сярод лаўрэатаў 2013 па Бешанковіцкаму раёну амаль спрэс адны чыноўнікі. Гэта пракурор Андрэй Шклярэўскі, інжынер па ахове працы, пенсіянер Леанід Рымашэўскі, начальнік раённага аддзела Фонда сацыяльнай абароны насельніцтва Марыя Варошка, дырэктар Бешанковіцкіх перасоўных меліяратыўных сетак Іван Карпук. Іхнюю кампанію разбавіў толькі адзін рабочы чалавек: аператар машыннага даення з “Наватара” Святлана Чэрапава.

Нагадаем, што і летась лаўрэатамі 2012-га года былі таксама адны чыноўнікі. Гэта кіраўнік раёна Леанід Пянькоўскі, дырэктар ПМК-41 Віктар Грышан, старшыня праўлення РСТ Галіна Галенка і дырэктар “Белкатламаша” Віктар Краўчанка.

Першапачаткова, у 2009 годзе, было ўстаноўлена грашовая ўзнагарода лаўрэатаму памеры 80 базавых велічынь (тады гэта было 2 800 000 рублёў, або 983 даляра). У 2010 годзе суму павялічылі да 285 базавых велічынь (па тых часах 9 975 000 рублёў, або 3311 даляраў). У 2013 годзе памер грашовай узнагароды скарацілі да 100 базавых велічынь (10 мільёнаў рублёў, або 1197 даляраў).

А вось у нашых сенненскіх суседзяў іншай крытэрый вылучэння лаўрэатаў. У гэтым годзе там імі сталі электрагазазваршчык і трактарыст-машыніст. У Гарадоцкім раёне - начальнік участка і кухар рэстарана.

**Г.Станкевіч**

ТАКІЯ СПРАВЫ

# ПРЫВАТНАЯ СПРОБА ПРАДАЦЬ ДЗЯРЖАЎНЫЯ КВАТЭРЫ

**З дазволу Бешанковіцкага райвыканкаму больш за 200 мільёнаў рублёў за прыватызацыю замест раённага бюджэту павінны былі паступіць на рахункі прыватнага прадпрыемства.**

Гэта гісторыя пачалася ў 2003-м годзе. Менавіта тады бешанковіцкаму ААТ "Аграсервіс" была перададзена ў бясплатнае часовае карыстанне (на 10 гадоў) дзяржаўная ўласнасць – 7 жылых дамоў і будынак інтэрнату. "Аграсервіс" з поспехам выкарыстоўваў жыллё для размяшчэння сваіх рабочых, але "забыўся", што гэту маёмасць трэба ўлічваць асобна ад уласнай.

Жыллё прынялі на баланс прадпрыемства і тым самым незаконна прысвоілі. Ішлі гады і, магчыма, усе "канцы" час абсек бы сам па сабе.

Штуршок для ўзнаўлення ісціны зрабілі самі людзі. Яны сталі звяртацца ў органы ўлады з просьбай прыватызацыі кватэр. Пачалася шматгадовая валакіта: людзі ішлі ў райвыканкам, а той спасылаўся на прыватную форму ўласнасці і адпраўляў іх у "Аграсервіс".

У выніку прыватызацыя зависла, а дэталёва разабрацца ў сітуацыі было некаму. А бясконца адфутболіваць настойлівыя звароты жыльцоў ні ў "Аграсервісе", ні ў райвыканкаме не маглі. А дакументаў на продаж кватэр, нягледзячы на іх "балансавае прысабечванне", усё ж не хапала…

–Спачатку ў 2010-м годзе, а потым у 2013-м Бешанковіцкі раённы выканаўчы камітэт, -распавядае намеснік начальніка ўпраўлення КДК Віцебскай вобласці Вадзім Валовіч, – прымае незаконнае рашэнне аб прызнанні даўнасці на асобныя аб'екты жылфонда, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці. Адным словам, райвыканкам узаконіў перадачу права ўласнасці на тры кватэры і інтэрнат акцыянернаму таварыству.

Пасля гэтага справы пайшлі хутчэй. На момант умяшальніцтва КДК у адносінах двух кватэр (з трох) ужо завяршылася працэдура продажу. Грошы ў памеры больш за 200 мільёнаў рублёў замест раённага бюджэту павінны былі паступіць на рахункі прыватнага прадпрыемства.

Зараз па патрабаванню Камітэту дзяржкантролю вобласці рашэнні Бешанковіцкага райвыканкама, якія не адпавядаюць патрабаванням заканадаўства, адменены. Жылыя памяшканні вернуты ў дзяржуласнасць.

Зразумела, што ўсе кватэранаймальнікі змогуць іх прыватызаваць. Вось толькі грошы ад продажу жылля пойдуць у дзяржаўную казну.

**Алена Бегунова**
**Рэспубліка**

НАША ГІСТОРЫЯ

# ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ БЕШАНКОВІЦКІХ ГАБРЭЕЎ

**11-га лютага 1942-га года ўсе габрэі бешанковіцкага гета (каля 3 000 чалавек) былі выведзены на другі бок Дзвіны і расстраляныя.**

Сёння пра падзеі таго дня нагадвае сціплы помнік, які ўстаноўлены на месцы адной брацкай магілы. Была і другая магіла. Толькі пра яе месцазнаходжання не помніць ніхто.

Ды і існуючы помнік не шануецца ўладамі. Вось і сёлета на гадавіну расстрэлу сюды не прыйшоў ніхто. Каля помніка валяецца стары кошык з пластмасавымі кветкамі. На ланцужку вісіць адарваны пралёт агароджы.

Як мне распавёў Анатоль Крачкоўскі, сам помнік быў выраблены ленінградскімі габрэямі і перавезены сюды.

**Г.Станкевіч**

Пра ваенныя падзеі ў Бешанковічах можна даведацца з сайта ***www.sztetl.org.pl/be/article/bieszenkowicze/6,-/#***

*"Адразу пасля акупацыі немцы ўсталявалі асобы парадак для габрэяў. Ім было загадана прыбіць на свае дамы і нашыць спераду і ззаду на адзенне жоўтыя шасціканечныя зоркі, і ім забаранялася вольна перасоўвацца: выходзіць з дамоў у начны час і выходзіць за межы гарадской рысы. Пад пагрозай расстрэлу габрэям забаранялася выязджаць у іншыя населеныя пункты. Нават проста хадзіць стала небяспечна - першым забітым у Бешанковіцкім гета стаў габрэй па прозвішчы Дуброў, які вяртаўся дадому з прадуктамі, абмененых на рэчы, і быў застрэлены немцам на вуліцы. Жыхарам пасёлка было загадана не кантактаваць з габрэямі. Немцы рабавалі і грамілі яўрэйскія дамы, гвалтавалі габрэйскіх дзяўчат на вачах у іх родных.*

*Восенню 1941 года, прыкладнаў лістападзе, габрэі былі сагнаныя ў гета. У дамах прымусілі жыць па 5-6 сем'яў. У асноўным гэтыя дамы знаходзіліся па Лепельскім гасцінцам (цяпер вуліца Свабоды), па вуліцах Лепельскай і Чашніцкай - і гэтая частка вуліц была абгароджана. Дамоў у гета было больш за дзесяць. У пасёлку Стрэлка гэта быў адзін дом, які стаяў на беразе Дзвіны, і да вайны належаў Юдовін Шае.*

*Жылі габрэі гета за кошт таго, што спрабавалі абменьваць свае рэчы на прадукты харчавання. Цяжэй за ўсё было дзецям, старым і хворым, і асабліва цяжка стала з надыходам халадоў.*

*Выпадкі ўцёкаў з гета былі практычна выключаны. Бегчы было некуды, а мясцовых жыхароў жорстка каралі за дапамогу габрэям.*

*Па ўспамінах сведкаў: «Кожны дзень габрэяў збіралі ў парку, і немцы адбіралі людзей для працы. Немец адзяваў на палку рыльца ад бутэлькі і гэтай палкай біў па галовах і спінах. І немцы, і паліцаі лютавалі аднолькава, людзей расстрэльвалі проста так, для забавы».*

*Перад самым знішчэннем кантроль над габрэямі з боку нацыстаў быў спецыяльна аслаблены, і ў многіх з'явілася надзея, што іх не крануць. Але гэта быў падман - 11 лютага 1942 г. камендант абвясціў, што адбудзецца знішчэнне габрэяў і загадаў сабраць вазы. За дзень да гэтага палонным (30 чалавек) было загадана выкапаць яму.*

*З матэрыялаў Віцебскай абласной камісіі ЧГК: «расстралялі і закатавана ... па горадзе Бешанковічы ... габрэйскага насельніцтва 2900 чалавек. Расстрэл адбываўся на беразе ракі ... , трупы з народам ў Заходнюю Дзвіну. Расстрэльвалі з аўтаматаў простымі і разрыўнымі кулямі, многіх ахвяр закопвалі жывымі, асабліва дзяцей і старых ...»*

НАВІНЫ АДУКАЦЫІ

# НАСТАЎНІЦКІЯ ЗАРОБКІ

**Калі 11-га студзеня мы размяшчалі артыкул пра надбаўкі настаўнікам, мы яшчэ не ведалі пра іхні рублёвы памер. Ведалі адно: надбаўка да заключанага кантракту бешанковіцкім настаўнікам вырасла з 5% аж да 15%.**

І вось у пачатку лютага настаўнікі атрымалі новыя квіточкі. У маім разліковым цэтліку зарплата адрозніваецца ад папярэдняй у снежні 2013-га на 100 000 рублёў і складае за студзень 2014-га 3 282 300 рублёў.

Гэта пры тым, што я працую амаль што на 1,5 стаўкі. А настаўнік, што працуе роўна на стаўку, атрымае каля 2 –2,5 мільёна ў месяц, то-бок 200 – 250-даляравы эквівалент.

Я – настаўнік з 17-гадовым стажам працы, які пяць гадоў "сушыў мазгі", каб атрымаць прэстыжны дыплом выкладчыка замежнай мовы, цяпер пастаўлены нашым чыноўнікам на адну дошку з сторажам, даглядчыкам жывёлы і г.д.

Настаўнікі – апора існага рэжыма, праваднікі ягонай палітыкі. Няўжо яны аслеплі і нават цяпер не бачаць, што рэжым не збіраецца дзяліцца з імі ніводнай капейкай? Што яны – толькі рабочы матэрыял у заганнай сістэме, якая не мае аніякай перспектывы?

**Г.Станкевіч**

НАША СПАДЧЫНА

# ВЁСКА ШАПЧЫНА

**Пройдзе яшчэ гадоў 10 – 15 і ад гэтай вёсачкі Бешанковіцкага раёна застанецца хіба што назва на старых картах. Бо сёння тут стала пражывае толькі чатыры сям'і.**

Шапчына папоўніць спіс "неперспектыўных" вёсак, якія штогод знікаюць з твару нашай зямлі.

А калісьці тыя вёскі жылі паўнавартасным жыццём. Дастаткова сказаць, што ў канцы 70-х гадоў мінулага стагоддзя у Шапчыне працавала крама і функцыянавала васьмігодка. Дырэктарам школы быў Гудкоў Пётр Фёдаравіч. Настаўнічалі матэматычка Сінкевіч Клаўдзія Цітаўна, Буткевіч Лізавета Васільеўна выкладала родную мову. Выкладчыцай рускай мовы была Сінкевіч Тамара Рыгораўна. Фізіку выкладаў Пестуновіч Уладзімір Канстанцінавіч. У пачатковай школе вучыла Петухова Ніна Архіпаўна.

А сельскагаспадарчая ферма саўгаса "Сокарава" існавала ў вёсцы і значна пазней. Чытачам цікава будзе даведацца, што Сінкевіч Клаўдзія Мікалаеўна, жыхарка вёскі Шапчына, якая дажывае тут свой век, за высокія надоі калісьці была дэлегаткай 25-га з'езду КПСС.

Напэўна, не ад шчаслівага жыцця, якое рэкламавалі правадыры будучага камуністычнага раю, жыхары Шапчына павыязджалі адсюль: хто на блізкія могілкі, а хто ў далёкія гарады. Але факт застаецца фактам: са шматнаселенай калісці вёскі сёння засталася хіба што назва.

Усе перамены, якія тут адбыліся, пазітыўнымі не назавеш. Але курс на захаванне калгаснага ладу, які працягвае сённяшні кіраўнік краіны, прыводзіць менавіта да такіх вынікаў.

Сяло імкліва вымірае. Усё тое, што тут гадамі будавалася, прыходзіць у заняпад і разбураецца. Ужо толькі лічаныя старажылы памятаюць, што пры панах на гэтай зямлі стаяла дагледжаныя панскія сядзібы з паркамі і садамі.

І вось праз амаль 100 гадоў пасля славутага Кастрычніцкага перавароту, што ў нас яшчэ святкуюць як Вялікую прагрэсіўную рэвалюцыю, ад панскіх слядоў на зямлі не засталося нічога.

Але ж за тую вялікую стогадовую эпоху, якую камуністы і іхнія наступнікі аб'яўлялі за прагрэсіўную, і не маючую аналагаў у свеце, мы не маем анічога, чым маглі б ганарыцца.

Занядбаная зямля… Знікаючыя вёсачкі… Поўнае разбурэнне ідэалаў…

**Г.Станкевіч**

НАШЫ СВЯТЫ

# ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ Ў БЕШАНКОВІЧАХ

**21-га лютага ўвесь свет святкуе Дзень роднай мовы. Але "ўвесь свет" – гэта зусім не значыць, што і мы таксама.**

Пасля ўрокаў 21-га лютага я заехаў у Бешанковічы. Спачатку завітаў у райвыканкам, дзе атрымаў пасведчанне аб рэгістрацыі ў раённы Савет. (У абласны аддалі ўчора.) Потым наведаў магазіны.

Анідзе на маю беларускую мову ніхто не рэагаваў. Няхай сабе прадавачкі не ведалі, ці не хацелі падтрымаць гаворкі на роднай мове. Хаця асаблівых ведаў тут і не трэба было паказваць. Ад "добры дзень", "дзякуй" і "да пабачэння" язык не адваліцца. Але ж і ў райвыканкаме роднага слова не пачуў аніводнага.

Добра, што хаця чыноўнікі абласнога аддзела адукацыі спусцілі па інстанцыі паперку, якая дайшла і да нашай школы. Тут сёння родная мова гучала. Няхай па загаду дырэктара, які прымацавалі да ўваходных дзвярэй, але ж гучала часцей, чым звычайна. Дзеці казалі звычайнае "Здрасьце", а потым папраўляліся "Ой, добры дзень!" І тое ў беларускамоўнай школе!

А пасля ўрокаў прыемна было расчахліць гітару і сустрэцца са школьнікамі. Да сёння яны ведалі мяне як настаўніка нямецкай мовы, а цяпер ужо як аўтара і выканаўцу сваіх песен.

Але для таго, каб родная мова гучала на поўны голас, аднаго энтузіязму некалькіх чалавек малавата. Трэба яшчэ і дзяржаўная падтрымка мовы. Хаця б у выглядзе беларускамоўнага тэлебачання. Шчэ лепей у выглядзе Закона, які забараняе здзек з яе.

На суцяшэнне ў галаве ўсплыло бураўкінскае: "Перажыла беларуская мова і Бенкендорфа, і Мураўёва. Тых, хто з трасянкаю ў галаве – перажыве!"

**Г.Станкевіч**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamnikat.org/kryvinka.html каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

ДАТА

# 6 ЛЮТАГА – 100 ГОДДЗЕ АРКАДЗЮ КУЛЯШОВУ

**Наш паэт пазначаны ў даведніках як беларускі савецкі паэт. А апошняя яго паэма “Хамаціус” была прысвечана нацыянальнаму герою Беларусі Кастусю Каліноўскаму. І ў школьныя праграмы яна не трапіла ды і сам народны паэт прадстаўлены ў праграме тэндыцыйна.**

Красамоўна пра Куляшова ў свой час казаў Сяргей Грахоўскі: “Куляшоў несмяротны як паэт, але ён быў нашым сумленным, нашым маўклівым суддзёю: аддаючы вершы ў друк, я заўсёды трывожыўся, што падумае, што скажа Куляшоў... Узорам поўнай аддачы, эталонам глыбіні, чысціні і майстэрства засталася яго паэзія, якую будзем спасцігаць і мы, і нашы нашчадкі. Яна нікому не дазваляе працаваць у паўнапала душы, яна глядзіць нам у вочы; як сумленне, застаўся яго запавет: «Лепш падаць і ўставаць з нялёгкай ношкаю, чым злёгку папіхаць яе рукой». Ён упаў пад гэтаю ношкаю. Хто ж яе панясе далей, раўняючыся на сцяганосца паэтычнай брыгады?”

*Мой родны брат! Я пакідаю свет.*
*Пішу табе не ліст, а запавет...*
*Узняўшы бунт, народу-жабраку*
*Мы камень падалі, а не руку.*
*Мы гінем ад таго, што абяцалі*
*Зямлю яму, а не далі ні цалі.*
*Калі затрубіць новай бітвы рог,*
*Паўстанец пакладзе на твой парог*
*Мой запавет...*

*Ты смела ўзыдзеш на круты памост*
*І станеш перад смерцю ў поўны рост...*
*Праз мутнае акно сваёй пятлі*
*Зірнеш у вочы людзям, а калі*
*Зямлю асвеціць сонца, што ў засадзе*
*Таілася да гэтае пары,*
*Ты ўчуеш песню жаўранка ўгары.*
*Убачыш мужыка на даляглядзе*
*З канём і сошкай і шапнеш:*
*«Ары!»*

**З “Хамаціус”**

ЗА АДКРЫТАСЦЬ

# АБ КАМПАНІІ «ПРАВА ВЫБАРУ»

**Падчас гэтых выбараў мы абіраем людзей, якія будуць прадстаўляць нашыя інтарэчы ў мясцовых органах улады. Гэтым людзям мы давяраем кантраляваць бюджэт раёна, працу камунальных службаў, адстойваць нашае з вамі права на камфортныя умовы жыцця.**

Мы, актывісты вядучых дэмакратычных сілаў Беларусі, верым у тое, што мясцовыя органы ўлады здольныя працаваць у інтарэсах грамадзян толькі тады, калі яны сапраўды абраныя народам. Падчас кожных выбараў улада выкарыстоўвае маніпуляцыі і фальсыфікацыі, каб перамогу на іх атрымалі тыя кандыдаты, якія паставяць інтарэсы трымальнікаў улады вышэй за інтарэсы грамадзян.

**«Права выбару»** - гэта кампанія назірання за выбарамі ў мясцовыя Саветы 2014 г., галоўнай задачай якой з'яўляецца супраца з дэмакратычным кандыдатам у дэпутаты мясцовых саветаў па вызначэнні і абароне сапраўднага волевыяўлення грамадзян.

**Звязацца з арганізатарамі кампаніі** магчыма праз мэйл: press@pravovybora.by

**З каардынатарам** па Віцебшчыне: **+375 29 218-98-38** і пошта: kas_vit@tut.by, скайп: **kas-moll**

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# БЕЛОРУСОВ ГОТОВЯТ К СМЕНЕ ПРАВИТЕЛЬСТВА И ДЕВАЛЬВАЦИИ

**За последние две недели ряд высокопоставленных чиновников начал резать правду-матку о том, что в белорусской экономике «что-то не так». При этом информация о неконкурентоспособности белорусской продукции доводится через СМИ до широкой аудитории.**

**Чиновники признаются: с экономикой что-то не так**

Первым на тему неконкурентоспособности белорусских товаров высказался вице-премьер Беларуси Петр Прокопович. *«Александр Григорьевич, надо же быть реалистами — у нас нет ни одного машиностроительного предприятия, которое было бы конкурентоспособно с мировыми лидерами. Для того чтобы МАЗ и тракторный завод были конкурентоспособными, надо еще вложить миллиарды и сотни миллионов. Это же сегодня наша реальность»*, — огорошил он 4 февраля Александра Лукашенко на совещании по проблемам развития промышленного комплекса и, в частности, затоваренности белорусских складов.

**Дальше — больше!**

Посол Беларуси во Франции Павел Латушко, на которого «повесили» сбыт наших товаров за рубежом, вообще признался, что *«наша техника на презентациях просто ломается»*.

На эту тему высказался также премьер-министр **Михаил Мясникович**. В интервью телеканалу «РТР-Беларусь», показанному в эфире 8 февраля, он заявил, что «к сожалению, отечественные предприятия, в том числе брендовые, сегодня значительно уступают по качеству, и тенденция — к ухудшению».

*«Мы не умеем торговать. Это откровенно. Инженеры хорошие, технологи неплохие, а то, что касается продать и управлять предприятием, — здесь слабоваты»*, — посетовал премьер-министр.

Марафон откровенности продолжил еще один вице-премьер **Владимир Семашко**.

*«В последние два года (особенно в конце прошлого — начале этого года) я отмечаю достаточно резкое снижение качества нашей продукции»*, — заявил он 12 февраля на коллегии Госстандарта.

Председатель правления Банка развития Сергей Румас сделал из этого всего вывод, что «наша экономика пока не начала выздоравливать», поэтому подъёмных кредитов промышленным предприятиям в обозримом будущем не видать.

Слова — словами, но об ухудшении дел в промышленности свидетельствуют цифры. За минувший год вклад промышленности в прирост ВВП составил всего 1,4%.

**Грядет смена правительства и разовая девальвация**

При всём при этом возникает еще один закономерный вопрос, с какого перепугу чиновники начали рубить правду-матку о тяжелой ситуации в экономике на всю страну?!

Таким образом высокопоставленные госслужащие пытаются перевести стрелки за провалы в экономике на директоров предприятий, концернов и холдингов, считает руководитель научно-исследовательского центра Мизеса **Ярослав Романчук**.

*«Понятное дело, что кого-то отдадут на заклание за невыполнение планов как минимум последних двух лет и четвертой пятилетки в целом. Никому не хочется составить компанию Михаилу Мясниковичу, который, совершенно очевидно, уже в новом правительстве никакой должности занимать не будет»*, — говорит экономист.




Нынешний премьер-министр, прогнозирует эксперт, сделает всё для того, чтобы продержаться на должности еще один год и за это время подыскать себе работу для благополучной встречи старости.

А вот кресло премьер-министра в будущем многие пророчат председателю правления Банка развития **Сергею Румасу**.

Как говорит Ярослав Романчук, власти сейчас как раз подходят к тому моменту, чтобы провести ротацию кадров на уровне правительства.

*«С периодичностью раз в пять-десять лет у нас меняются люди, которые распоряжаются государственными ресурсами. Меняются даже бизнесмены, которые участвуют в госпрограммах»*, — говорит Ярослав Романчук.

При этом чиновники не забывают полить грязью один одного.

*«Заметьте, никто из чиновников не предлагает поменять систему, отказаться от финансирования госпрограмм в таком объеме и таком количестве. Никто не говорит о необходимости расширения частного сектора в экономке, а просто говорят, что эти распределяли по разным причинам плохо, а вот на новом витке трат госденег мы почему-то будем делать это хорошо»*, — отмечает экономист.

Он называет этот процесс *«жертвоприношением кадров, которых могут назначить козлами отпущения, чтобы освободить место для других, в рамках той же системы координат»*.

*«Хотя такие раздраи не на руку Александру Лукашенко. Они не добавляют популярности власти, а за результат в конечном итоге отвечает сам Лукашенко»*, — считает Ярослав Романчук.

**Александр Ярошевич**
**naviny.by/rubrics/economic/2014/02/18/ic_articles_113_184635**

ПРАБЛЕМЫ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ

# ДЗЯРЖАВА ХОЧА ЛІКВІДАВАЦЬ БАЗАР, АЛЕ НЕ ПАБУДАВАЛА РЫНАК

**18 лютага на нарадзе прэзідэнта Беларусі з урадам па праекце ўказа «Аб некаторых пытаннях рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі» Аляксандр Лукашэнка заявіў, што «калі вы пасля сённяшняй гутаркі паспрабуеце недзе зладзіць страйк, не будзеце працаваць на сваім працоўным месцы, вы больш туды не прыйдзеце».**

Naviny.by вырашылі разабрацца, што можа штурхнуць прадпрымальнікаў на страйк і ці гатовыя яны да крайніх мерам.

**Паспець да 1 ліпеня**

У праекце ўказа для індывідуальных прадпрымальнікаў - плацельшчыкаў адзінага падатку з 1 ліпеня 2014 г устанаўліваецца абавязак дакументальна пацвярджаць набыццё прадукцыі, якая рэалізуецца. Аляксандр Лукашэнка заявіў, што яшчэ аднаго пераносу тэрмінаў увядзення гэтага патрабавання чакаць не варта.

На нарадзе выступіў старшыня Беларускага саюза прадпрымальнікаў Аляксандр Калінін. Як адзначыў кіраўнік БСП у каментары для Naviny.by, прапанаваны ўрадам ўказ вельмі жорсткі.

«Намі прапанаваныя меры, накіраваныя на кампраміс. У тым ліку такія істотныя, як вяртанне наёмных работнікаў і ўвядзенне ў дакументаабарот закупнога акту», - паведаміў Калінін.

Кіраўнік дзяржавы даручыў ураду сумесна з прадпрымальнікамі выпрацаваць ўзгоднены варыянт указа. «Таму Беларускі саюз прадпрымальнікаў у цяперашні час рыхтуе і ўнясе ў панядзелак на нарадзе ў прэм'ер-міністра свой варыянт указу. Зараз гэта рабочы дакумент, які каментаваць бессэнсоўна», - лічыць кіраўнік БСП.

Адказваючы на пытанне аб ультыматыўных заявы Лукашэнкі ў адрас прадпрымальнікаў , Аляксандр Калінін адзначыў, што кіраўнік дзяржавы можа казаць тое, што лічыць патрэбным.

«Мы супраць забастовак, і лічым, што гэта не метад. Мы настроены на канструктыўны дыялог з урадам і выпрацоўку нармальнага, якое б задаволіла ўсіх парадку пераходу на той рэжым, які ўрад лічыць неабходным», - заявіў Аляксандр Калінін.

Сам ён асабіста задаволены сустрэчай з прэзідэнтам і лічыць, што да 1 ліпеня бакі ў стане выпрацаваць ўсе неабходныя нарматыўныя акты на рахунак з'яўлення ў Беларусі свайго «Чаркізаўскага» рынка.

«Чаму мы павінны закупляцца ў той жа Расіі? Па крайняй меры, тут можна будзе кантраляваць якасць тавараў. Проста стварыць яго складана», - адзначыў ён.

**Хто каго не чуе ?**

Не плануе пратэстных акцый і актыўна абараняе інтарэсы іпэшнікаў грамадзкае аб'яднаньне «Пэрспэктыва», на якое асабліва папеляў кіраўнік дзяржавы.

«І ганіце ад сябе усялякіх там Шумчанка, не тое яшчэ кагосьці, каб яны нават блізка каля вас не хадзілі. У іх няма нічога з вамі агульнага і быць не можа, ім трэба іншае», - казаў на нарадзе ў адрас прадпрымальнікаў Аляксандр Лукашэнка.

Сам старшыня савета РГА "Пэрспэктыва" Анатоль Шумчанка распавёў, што ніхто і не планаваў весці людзей на барыкады.

«Я на нарадзе і Пракаповічу (віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч. - Naviny.by) сказаў, што мы страйку не збіраемся ладзіць. Таму што гэта называецца арганізаваным пратэстам і гэта вельмі вялікая раскоша. Калі ў канцы года прадпрымальнікі на месцах выказвалі сваю пазіцыю, яна была вельмі красамоўная. Таму, калі ўлада прыме тыя правілы, пра якія кажа Лукашэнка, дык няхай яны іх выконваюць. І калі не хочуць слухаць нас, «Перспектыву», то тады няхай пачуюць і сутыкнуцца з народам. Мы не супраць, каб яны даведаліся пра сябе меркаванне простых людзей», - растлумачыў старшыня "Перспектывы".

«Мы напісалі зварот, і мне людзі тэлефануюць і кажуць, што ўсё правільна. Яны так і заяўляюць, што па тых правілах, якія для нас хочуць стварыць, мы працаваць не зможам. Я хачу адзначыць, што «Перспектыва» заўсёды адкрыта да дыялогу, але пасля слоў прэзідэнта, я не ўяўляю, як чыноўнікі будуць з намі працаваць», - адзначыў Шумчанка.

Старшыня «Перспектывы» яшчэ раз звярнуў увагу на непазбежныя эканамічныя страты пасля ўвядзення суправаджальных дакументаў як для ІП, так і для дзяржавы.

Сёння прадпрымальнікі выплачваюць адзіны падатак наперад, і дзяржава стабільна атрымлівае добрыя падатковыя паступлення незалежна ад таго, атрымлівае даход плацельшчык альбо не. Плацяжы закладваюцца ў бюджэт, і яны будуць заўсёды атрыманы ў поўным аб'ёме.

«Калі будуць уведзеныя суправаджальныя дакументы, сэнс адзінага падатку будзе страчаны. Даходы ў выглядзе падаткаў ад ІП, паводле нашых ацэнак, упадуць у 2-3 разы па аналогіі з групамі тавараў, ужо выведзены з-пад дзеяння адзінага падатку», - растлумачыў Шумчанка.

Дарэчы, як заявіў на ўчорашняй нарадзе Аляксандр Лукашэнка, «ніхто не павінен быць пакрыўджаны, трэба разгледзець прапановы кожнага чалавека».

**Марыя Грыца**
**Белапан**

РЭХА ПАДЗЕІ

# У ЯКІХ ІНТЭР'ЕРАХ І ЯК ЖЫЎ ЯНУКОВІЧ У МІЖГОР'І.

**Міжгор'е — загарадная рэзідэнцыя Віктара Януковіча. Некалькі гадоў таму яна была прыватызаваная, што выклікала скандал. Цяпер дэпутаты «Свабоды» прапануюць нацыяналізаваць Міжгор'е.**

Як стала вядома, напярэдадні ўцёкаў сям'я Януковіча грузавікамі і верталётамі вывезла ўсё каштоўнае з Міжгор'я. Але інтэр'еры і яхты забраць з сабой яны не маглі.

У якіх інтэр'ерах і як жыў Януковіч? Гэта бачна на здымках фатографаў Ройтэрз.

У рэзідэнцыю Віктара Януковіча выстройваюцца чэргі, як у маўзалей або першае фаст-фуд-кафэ ва Украіне.

Дом, у якім ён жыў, дзівіць сваёй пампезнасцю. А рэзідэнцыя па тэрыторыі большая за старажытны горад Вышгарад.

Чорную бухгалтэрыю сям'і, якую дасталі з вады, а гэта каля 20 тысяч дакументаў, будуць старанна вывучаць.

«Толькі адзін дакумент, які ў мяне ў руках — гэта адна кампанія Януковічаў сплаціла другой — 56 мільёнаў грыўняў (5,6 млн даляраў). Было прысвоена не менш за 10 мільярдаў грыўняў (1 млрд даляраў), і гэта 10 працэнтаў з таго, што мы прагледзелі», — распавядае Дзмітрый Гнап. Ён упэўнены, што самыя важныя звесткі ўсё ж такі ўдалося знішчыць.

Разам з паперамі — іншая знаходка — сотні боепрыпасаў. «Два віды пісталетаў, СВД, АКМ, АКС. Цэлую роту можна узброіць, 70-80 чалавек», — кажа Гнап.

Самаабаронаўцы ўпэўненыя, што на дне ёсць яшчэ нямала куль, ёсць і зброя, пакуль ад яе знаходзяць толькі чахлы. Ахоўнікі ўпэўненыя, уцякаючы, экс-гарант прыхапіў нямала цікавага.

Так, у калекцыі рарытэтных аўто (плошча гаража дзве тысячы метраў) дзе захоўваецца не менш за паўсотні савецкіх легкавікоў і ваеннай тэхнікі, знік каштоўны экспанат — «Хорх» 1935, такіх ва Украіне ўсяго 7 мадэляў.

На тэрыторыі рэзідэнцыі — беспрэцэдэнтныя меры бяспекі. Толькі шлях Януковіча ў сяло Новыя Пятроўцы адсочваўся амаль трыма дзясяткамі камер. Пад зямлёй таксама знайшлі кучу хадоў, але, іх карты няма.

Першае, што Януковіч старанна сачыў за здароўем, сведчаць уласная ферма і лабараторыя.

Усё, што піў і еў экс-прэзідэнт Украіны эксперты даследавалі на радыяцыю, праводзілі бактэрыялагічныя і біялагічныя выпрабаванні. «Вымяралі ўсё, колькі жалеза, магнію.

Ён мамалыгу любіў, вось яму прывозілі 10-15 відаў проб з іх выбіралі тую, якую ён будзе прымаць», — распавядае актывіст.

Ваду для прэзідэнта чысцілі мінімум дванаццацю ступенямі ачысткі.

Уласная АЗС, прынамсі дзве кацельні, стайня, заапарк, лазні, гасцявыя дамы і нават племянны кіналагічны цэнтр закрытага цыклу. Тут — 15 сабак англійскага і тыбецкага масціфаў і каўказцы. Шчанюкоў тут гадавалі выключна для падарункаў, кажа кінолаг.

**tsn.ua**

ДАЛУЧАЙСЯ!

# ПАЧАЎСЯ ЗБОР ПОДПІСАЎ ЗА “НАРОДНЫ РЭФЕРЭНДУМ”

**Беларусі патрэбны новы рэферэндум, на якім народ сваім рашэннем вызначыць далейшае развіццё краіны. «Народны рэферэндум» - гэта ваша законнае права выказацца, права быць пачутым, гэта ваш заслужаны шанец на перамены, на вяртанне павагі да сябе з боку ўлады, на магчымасці ў надзейнай дзяржаве.**

На «Народны рэферэндум» яго ініцыятары (кампанія «Гавары праўду», Рух «За Свабоду» і Партыя БНФ) на падставе меркаванняў дзясяткаў тысяч простых беларусаў і спецыялістаў у розных галінах абралі шэсць найбольш папулярных і важных пытанняў.

***1. Ці згодныя вы, што ў дзяржаўных установах адукацыі і аховы здароўя ўсе паслугі грамадзянам Беларусі павінны аказвацца бясплатна?***

***2. Ці згодныя вы, што кіраўнікі выканкамаў гарадоў, раёнаў, абласцей павінны абірацца прамым галасаваннем грамадзян?***

***3. Ці падтрымліваеце вы курс на эканамічную інтэграцыю, асацыяцыю і стварэнне бязвізавай прасторы з Еўрапейскім Саюзам?***

***4. Ці згодныя вы, што дзеля забеспячэння нейтральнага статусу Беларусі ў краіне павінна быць забаронена размяшчэнне замежных вайсковых аб'ектаў, ядзернай зброі, а беларускія вайскоўцы не мусяць несці службу за мяжой?***

***5. Ці згодныя вы, што адна і тая ж асоба не можа займаць пасаду прэзідэнта больш за два тэрміны?***

***6. Ці згодныя вы, што грошы, атрыманыя ад запланаванай урадам прыватызацыі, у першую чаргу павінны пайсці на кампенсацыю ўкладаў, згубленых пад час дэвальвацыі-2011, і стварэнне працоўных месцаў?***

Менавіта праз правядзенне "Народнага рэферэндуму" і наступную рэалізацыю народных пытанняў мы зможам пабудаваць надзейную краіну, заснаваную на павазе да людзей.

**Народ патрабуе павагі!** Народны рэферэндум – гэта магчымасць большасці беларусаў заявіць пра сябе, пра свае права быць паважаным і пачутым, жыць годна. Магчымасць выказацца пра тое, як жыць далей. Мы лічым, што Беларусі патрэбны новы рэферэндум, які вызначыць далейшае развіццё краіны і верне грамадзянам павагу і магчымасці.

**Ад рэдакцыі:** ***пастаўце свой подпіс за «Народны рэферэндум» вы можаце, калі звяжыцеся з рэдакцыяй газеты. Кантактныя даныя дадзены на чацвёртай старонцы.***

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 26.02.2014 у 17.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.